 

# СОВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ

(Успаміны з фестывалю)

На вуліцы ў Маскве пазнаёміўся я прыпадкова з маладым інжынерам, які запрасіў мяне да свайго дома. Калі мы пераступілі парог яго памяшкання, ён прадставіў мяне сваёй жонцы і яе бацькам, як добрага знаёмага. На пытанне цёшчы — чаму ніколі не ўспамінаў аб сваім сябры — малады інжынер усміхаючыся адказаў, што не было яшчэ часу.

— Мы-ж пазнаёміліся толькі гадзіну таму назад.

— Тады чаму-ж ты звяртаешся да свайго знаёмага на «ты», калі вы знаёмы ад нядаўна — адазвалася цёшча.

— Я не звычайны звяртацца да сваіх блізкіх сяброў на «вы» — пачула яна адказ свайго зяця Толі.

Не прайшла і другая гадзіна, калі я пасябраваў з цэлай сям'ёй. Мяне пасадзілі за стол і як я не стараўся — ніяк нельга было адмовіцца.

— Чуйцеся членам нашай сям'і — звярнулася да мяне гаспадыня дома, калі я сядзеў ужо за сталом і спажываў смачны абед.

А, калі ўжо прышлося развітацца — яны расставаліся са мною сапраўды, як з родным сынам ці братам. На дарогу абладавалі мяне апельсінамі і адвялі да аўтобуса. Чакалі тут так доўга, пакуль я не ад'ехаў.

Гэтая сустрэча застанецца назаўсёды ў маёй памяці і сэрцы.

*

Амаль кожны малады чалавек, з якім мне давялося пазнаёміцца ў Маскве з'яўляецца студэнтам ці вучням сярэдняй школы. Уся савецкая моладзь вучыцца. Ды не толькі моладзь і не толькі ў школах. Совецкія людзі вучацца ўсюды. Сустракаў я іх з кніжкамі ў руках на вуліцы, у аўтобусе, у цягніку, а нават на рухомых усходах у метро. Гэтая з'ява паказалася вельмі дзіўнай і незразумелай для дэлегатаў з капіталістычных і каланіяльных краін, а нават і для мяне, прыехаўшага з Польшчы, дзе нажаль няма яшчэ аж так вялікага зацікаўлення кніжкай.

*

Масква мае вельмі многа тэлефонных абанентаў, а таксама будак з тэлефон - аўтаматамі на вуліцы. Калі хто-небудзь з дэлегатаў пазнаёміўся з кім-небудзь з масквічоў, апрача прозвішча, імя, адрасу атрымоўваў таксама нумар тэлефона. Найчасцей другая і наступныя сустрэчы са знаёмымі адбываліся пры помачы тэлефона. За пятнаццаць капеек можна званіць і размаўляць так доўга, пакуль нехта не застукае далікатна ў шыбку будкі новай пятнаццацікапейкавай манетай.

*

Совецкая моладзь вельмі вясёлая. Яна любіць песні, музыку і танцы. Нават познім вечарам на вуліцах у Маскве можна не сустрэць, калі ўзяўшыся пад рукі, займаючы амаль цэлую шырыню вуліцы ідзе з гармонікамі, гітарамі і ў такт музыкі спявае песні. Здаецца найбольш папулярнай у часе Фестывалю была песня «Подмосковные вечера».

ВІКТАР ШВЕД

З нашай мінуўшчыны

# 440-годдзе друку Беларускай Біблії

*«...Ад прыраджэння зьверы, што ходзяць у пустыні, знаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзда свае; пчолы і тым падобнае, бароняць вуллі свае — тако-ж і людзі, дзе зрадзіліся, к таму месцу вялікую ласку маюць...»*

*ФР. СКАРЫНА*

У гэтым годзе мінула 440 гадоў ад таго часу, калі беларускі гуманіст, Доктар Францішак Скарына з Полацка пачаў друкаваць у Празе Чэскай кнігі ў перакладзе на беларускую мову.

6 жніўня (ст. ст.) у 1517 г. выйшла з друкарні Скарыны першая друкаваная беларуская кніжка, Псалтыр. Хутка пасля Скарына пачаў друкаваць пераклад Бібліі на беларускую мову. Перакладаючы набажэнскія кнігі, Скарына кіраваўся думкай, каб «людзі паспалітыя, чтучы, маглі лепей разумеці».

У 1525 г. Скарына закладае друкарню ў Вільні. Гэта была першая друкарня на Усходзе Еўропы. Беларуская Біблія Фр. Скарыны стаіць на трэцім мейсцы ў гісторыі друкарства наогул.

Пачын, які зрабіў Скарына, знайшоў хутка водгук сярод беларускіх асвечаных кругоў. Друкарства стала хутка на моцны грунт і асабліва калі пачала пашырацца рэфармацыя і ўзгарэлася рэлігійнае змаганне, друкарні паўстаюць адна за адной.

Вучань Скарыны, Пятро Мсціславец занёс друкарства ў Маскву. дзе навучыў Івана Фёдарава друкаваць кнігі. Мсціславец з Фёдаравым выдалі ў Маскве дзве друкаваныя кніжкі (1564—1565 г.). Але далей працаваць яны не маглі. Іх абвінавацілі, як «чарадзеяў і гэрэтыкаў».

Мсціславец з Фёдаравым уцяклі на Падляша. Тут яны працавалі ў Заблудаве ў гэтмана Рыгора Хадкевіча, дзе ў 1569 г. выдрукавалі «Евангелие учительное». «Хітрыя майстры», як называлі Мсціслаўца і Фёдарава, хутка, аднак, рассталіся. Мсціславец з Заблудава паехаў у Вільню, дзе пачаў друкаваць у вялікай друкарні беларускіх купцоў Мамонічаў, а Фёдараў паехаў у Львоў, дзе даў пачатак украінскаму друкарству.

Паходня культуры, якую падняў Скарына, свяціла далёка. І сёння мы павінны памятаць запавет, які пакінуў нам у спадчыне гэты вялікі беларускі гуманіст - патрыёт, каб працаваць «к пажытку люду паспалітага».



*У Беластоку на плянтах штогод садзіцца многа тысяч кветак. Гэтыя кветкі вырошчвае Казімір Ярмоц, які ўжо 32 гады працуе агароднікам.*

*Фото — В Касакоўскі*

Усякая ўсячына

## 90-гадовы жаніх

90-гадовы ўдавец Гары Шоў з Віеўлянду ў Англіі памясціў у мясцовай газеце абвешчанне наступнага зместу:

*«Джэнтэльмэн хоча пазнакоміцца з дзяўчынай хрысціянкай з намерам жаніцьбы. Маю 90 год і гарачае сэрца. Чуюся самотным, а разам нам будзе вельмі прыемна».*

Шоў быў два разы жанаты: першы раз ажаніўся маючы 17 год, а другі — 70.

Ён мае васьмёра дзяцей.

### Дзіўны цэннік

Не далёка французскага горада Діоппо ёсць сенажаць, якую гаспадар вынаймае для папасу коней. На сенажаці стаіць слуп з прыбітай дошкай, на якой выпісаны цэны за папас коней. Паводле гэтага цэнніка, за коней з абстрыжаным хвастом плаціцца два разы менш.

Здзіўленым гэтым турыстам гаспадар выясняе. Конь з вялікім хвастом мае чым адганяць аваднёў і таму спакойна пасвіцца, а конь з абстрыжаным хвастом мусіць заўсёды бараніцца галавой ад аваднёў і таму з'ядае два разы менш травы.

### Дзесяць разоў у агонь

У часе пажару ў Лос Анжэлас у Каліфорніі, жыхар аб прозвішчы Лекінгтон, дзесяць разоў кідаўся ў агорнуты агнём дом, каб выратаваць дзве маткі і іх адзінаццаць дзяцей. Калі аднак да яго звярнуліся з просьбай, каб яшчэ раз пайшоў і прынёс тэлевізар, — ён страшэнна раззлаваўся і адыйшоў з месца выпадку.

### Вернасць бусла

Выдумкай аказалася апавяданне аб вернасці бусла сваёй самцы. Пры дапамозе значэння буслоў пярсцёнкамі ўстаноўлена, што буслы лучацца ў пары на адзін сезон, а пасля адлёту пары разыходзяцца. Вярнуўшыся вясною яны шукаюць сабе пары нанава. Здараецца пры тым, што бусел прыляцеўшы ў сваё старое гняздо знаходзіць там сваю жонку з папярэдняга сезона і лучыцца з ёй на новы сезон.

### Дзве гадзіны з Еўропы ў Амерыку

У Англіі апрацоўваецца новы тып пасажырскага самалёта, які зможа забраць 135 пасажыраў і на працягу двух — трох гадзін праляцець атлантычны акіян.

Былы кіраўнік Таварыства брытанскіх заморскіх паветраных шляхоў, заявіў, што на працягу 12 гадоў можна будзе сарганізаваць рэгулярную камунікацыю такімі самалётамі.

На працягу 12 гадзін гэткі самалёт зробіць два пралёты праз Атлантычны акіян. Самалёт будзе падымацца ў паветра з месца і таму аэрадром для яго не будзе патрэбны.

### Дзіця заснула моцным сном

Каля мясцовасці Аўгусты ў стане Георгія ў ЗША прызнана памылкова за памершае васьмітыднёвае дзіця. Пасля 18 гадзін, на працягу якіх яно не здраджвала адзнак жыцця паложылі дзіця ў дамавіну і занеслі на могільнік. Калі пачалі засыпваць дамавіну зямлёй, прысутныя пачулі плач дзіцяці. Дзіця было ўратаванае.

ЯНКА ДУБІЦКІ

# Паход на Туркаў

*(Апавяданне)*

Нашае сяло дзялілася на дзве часткі. Адных называлі Крынічанамі, а другіх — Туркамі. Чаму іх так называлі, дакладна не ведаю. Наша хата стаяла за сялом, на Выкрутах. Тут-жа стаяла і яшчэ некалькі хат і людзі з сяла называлі нас Чэпэлямі.

Суадносіны паміж Крынічынай і Туркамі былі (паміж моладдзю) ваяўнічыя. Часта адны з другімі біліся, рвалі адзёжу, валасы, а заўсёды пры тым лілася кроў.

Таму, што наша хата стаяла на Чэпэлях — я мог хадзіць і туды і сюды.

Аднойчы выйшаў я на вуліцу і сустрэў сваіх равеснікаў, Крынічан.

— Здарова, хлопцы! — гукнуў я.

— А, Ваня! Ну, і добра — сказаў Міхась.

— Што добра? — запытаў я.

— Даведаешся зараз — сказаў атаман іхняй банды, Віця, і падыйшоўшы да мяне пачаў гаварыць:

— Ідзем мы па Крынічыне, о так як усе тут ёсць, аж бачым... Турак штосьці мышкуе. Мы да яго, а ён драла.

— Уцёк? — прашаптаў я.

— Уцёк, зараза! Але, нічога. Вось мы зараз пойдзем да іх. Пойдзеш з намі?

— Чаму не паисці — адказаў я.

— Так вось, Ваня, шыкуй добрага кія — падсказаў хтось.

Я быў усхваляваны. Вось думаю папамятаюць яны мяне, калі каго сцебяну гэтым кіем. І падняўшы ўгору кій, са свістам, як Чапай шабляй, прарэзаў ім паветра.

Калі ўжо мелі ісці, Віця сабраў нас і даў кароткую прамову.

— Хлопцы, ваякі! — гаварыў урачыстым голасам Віця.

— Зараз ідзем паказаць Туркам, як лазіць па нашай Крынічыне. Так вось, ідзіце ўсе дружна, адважна. Памятайце, у гэтым наша сіла. Наш выйгрыш у бойцы залежыць ад таго, як сёння яны схочуць біцца, ці найперш атаманы, ці кагалам. Калі будзем біцца кагалам, уважайце на Жоржа. І так, здаецца ўжо ўсё ясна. А цяпер марш, ідзем! — строга, як-бы сапраўдны атаман закамандаваў Віця.

Нас было дзесяцёх.

Калі толькі рушылі ў паход заспявалі вясёлую песню. Адзін з нас брымкаў яе на губах, другі сапраўды спяваў, трэці прылясківаў кіем па плоце ў такт мелодыі. Песня плыла, пэўна, далёка, далёка, бо зараз-жа пачуліся з усяго сяла брэхі сабак, а з хат выхіляліся цікавыя галовы.

Мы ішлі смела, упарта глядзячы ў цемень ночы. А на Турках, відаць, учулі ўжо нас, бо пачуліся крыкі і пасвістванні.

Наша каманда была гатова да атакі. Кожны з нас моцна трымаў кій і каменне. Вось падыходзім да іх тэрыторыі і што за чорт. Нават ніхто не крыкнуў на нас. У гэтым месцы, яны нас заўсёды сустракалі, а цяпер... Ці можа засада?

Не затрымліваючыся мы ішлі далей.

— Струсілі, Туркі праклятыя — сказаў Віця.

— Напэўна! — падтрымалі мы свайго атамана.

Дашлі мы да канца сяла, а Туркаў няма.

— Давай назад! — закамандаваў атаман.

Мы завярнулі і ішлі ўжо назад. Кожны з нас быў вясёлы і цікавы чаму гэта няма Туркаў.

Калі мы дайшлі да хаты, дзе жыў іхні атаман, Валодзя, раптам адчыніліся вароты і Туркі загарадзілі нам дарогу. Іх было менш, за тое адзін быў вельмі сільны ваяка, зваўся ён Жорж.

— Стой, хто ідзе?! — строга гукнуў нехта з Туркаў.

— Вашы ворагі! — яшчэ мацней адказаў Віця.

— Ворагі? Мы з ворагамі заўсёды б'емся — сказаў Валодзя.

— Так мы гатовы! — зноў адказаў Віця.

— І мы! адазваўся Жорж.

— Як б'емся? — пытаў наш атаман.

—Так, як у тамтой аўторак — адказаў іхні атаман.

І ў той момант Віця і Валодзя пачалі сходзіцца. Твары іх былі наліты праўдзівай злосцю, а рукі моцна сціскалі палкі. Калі адлегласць між імі выносіла не больш метра, Віця першы ўдарыў Валодзю кіем. Той пахіснуўся, потым прысеў і застагнаў. Рэшта Туркаў і Крынічан стаяла на баках. Не можна было ў гэтым выпадку бараніць. Раптам Валодзя ўстаў і хацеў ударыць Віцю, які стаяў над ім, як каршун, але той зноў першы ляснуў яго кіем у галаву. Валодзя ўпаў. Па ўмовах мы і яны пачалі лічыць да ста. Валодзя не ўставаў.

— Туркі прайгралі! — весела крыкнулі мы.

Падыйшоў Жорж да Валодзі, узяў яго пад рукі і павалок у хату. Рэшта воінаў азіраючыся са злосцю пайшла за імі. На вуліцы засталася лужка крыві, якая як-жа дзіўна бліщчэла пры месячным святле. Ціха і боязна, па-пад плотам, каб ніхто не заўважыў ішлі мы дамоў. А ў сэрцы чамусьці паўстала горач і жаль за кімсь далёкім, а заразам блізкім, чалавечым.

— Цікава, якія сэрцы маюць людзі, што забіваюць. Цікава!

1957 год. Бельск



 

